АНАТОЛЬ КАНАПЕЛЬКА

# СУСТРЭЧЫ



# АНАТОЛЬ КАНАПЕЛЬКА

# СУСТРЭЧЫ



ВЕРШЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1979

## ПРА СУЧАСНАСЦЬ

Сучаснасць —
лебядзінае крыло,
ценьругана
і вечная крыніца.
Сучаснасць —
навальніца,
дзе святло,
і цень,
і кожны дзень
трывожны,
як граніца.

## МЫ НАРАДЗІЛІСЯ ТАКІЯ

Мы нарадзіліся
                    такія,
такімі
        будзем да канца:
нястомныя
              і трапяткія,
з нязломнай воляю байца.

Не глухлі мы
                у громе бою —
бацькам
           нялёгкі выпаў лёс.
Мы нарадзіліся з табою
сярод параненых бяроз.

Глядзі і помні,
                   мой равеснік,
бярозы йшчэ
                былі ў бінтах,
а мы
      пад чыстым небам веснім
барозен шэрых
                   чулі пах.

Нам любы
даль цяжкіх вандровак,
зялёных лісцяў аганькі,
ў пакутах знойдзенае слова
і поціск
шчырае рукі!

2 Зак. 2285

## ПАРТЫІ

Ты шлях свой пачынала з барыкад,
цябе няшчадна сек свінцовы шквал.
Да сонца
ты ўзнімала на руках
«Інтэрнацыянал».

І ён
грымеў, і клікаў,
як набат,
з нянавісцю суроваю і лютаю
ісці
ад першых барыкад
да самай
найвялікшай Рэвалюцыі!

Ты
перад намі
адкрываеш далячынь,
разгортваеш
крылатыя сцягі.
І над зямлёю
велічна гучыць
твой пераможны,
твой вячысты гімн!

# ЧАЛАВЕК

Я — антэна:
зямныя гукі
ўва мне пульсуюць вякі.
Недарэмна —
сталёвыя рукі
і кувалдамі —
кулакі!

Я прыцягваю,
як магніт,
неспакой,
што трывожыць свет.
Як ракеты, імчацца дні,—
дваццаты
адлічваюць
век.

Дваццаты...
Гляджу здаля,
як вяртаюцца журавы...
І плыве
ў неўміручасць
зямля,
а з ёю
і я — СТЫРНАВЫ!

ПАЭЗІІ

Адчую раптам, як здалёк,
аднекуль з цішыні,
крылаты выплыве радок,
папросіць вышыні.

І твой пакой —
на цэлы свет,
і столькі ў ім святла!..
Гляджу
табе зайздросна ўслед,
а ты
далей пайшла...

# ХВІЛІНА МАЎЧАННЯ

Не хопіць дыхання,
каб вымавіць слова.
Ў суровым маўчанні
схіляем галовы.

Хвіліна жалобы
і шанавання —
хвіліна маўчання,
хвіліна маўчання!..

Не трэба адчаю,
не трэба журыцца...
Хвіліна маўчання —
як міг бліскавіцы.

## ПРА КАЗКІ

А недзе
кружыць чорны воран,
жыве бязлітасны Кашчэй,
і на зямлі хапае гора,
хапае жорсткасці яшчэ.

І плача сціплая Алёнка.
Азябла — ножкі абвіла.
Балюча робіцца і горка,
што столькі зла,
што столькі зла!..

Нялёгка з горам прымірыцца:
куды ж падзелася дабро?..
Не плач, гаротная сястрыца,
і над табою загарыцца
жар-птушкі добрае пяро!..

Кашчэй зачахне.
Сціхне воран.
І сонца выгляне з начы.
На самым дне
у сінім моры
ад шчасця
знойдуцца ключы...

Не моўкні,
казкі голас звонкі,
ты са спагады
і святла!
...Не перагорнуты старонкі
дабра і зла,
дабра і зла!..

## РОДНАЕ СЛОВА

Адкрываю,
як свет,
нанова
беларускае
роднае слова,
пералівістае —
як каменьчык,
вясёлкавае —
як ручэй,
цёплае —
як агеньчык
добрых тваіх вачэй,
светлае —
як маланка,
гнеўнае —
як пярун,
ціхае —
як калыханка,
вечнае —
як Беларусь!

## ПАМЯЦЬ

Нам
не забыць
ваенныя гады,
цяжар нечалавечы на плячах,
як чорным крумкачом
кружыўся
чорны дым
і сонца чорнае
канала
у вачах.

3 Зак. 2285

* * *

Колькі блізкіх
і родных імён
на зямлі не далічана...
Іх чакаюць,
забыўшы пра сон,
у Полацку,
Брэсце,
ў Клічаве...

Так доўга чакаюць іх,
дарагіх,
незабыўных,
каханых.
Іх чакаюць,
вайной адабраных,
маладых і старых —
жывых!

Маткі слепнуць
ад горкіх слёз,
і сівеюць удовы ад болю,
абеліскі —
пад ценем бяроз,
абеліскі —
пад ценем таполяў...

## МАЦІ ХВЯДОСА СМАЛЯЧКОВА

Даруйце мне,
што Вас я называю мамаю.
Прад Вашай мужнасцю
укленчыць я гатоў.
Вам дзякуй,
што былі Вы моцнай самаю,
калі на плечы лёг
адчай гадоў.

І помніце
да кожнай дробнай рысачкі
(сляза спагады шчокі апячэ),
як Вы сядзелі
над яго калыскаю
нямала доўгіх
і пакутлівых начэй,

як ён смяяўся
воблакам і сонцу,
як ён вітаў
птушыную вясну
і як прыносіў
на вішнёвай гронцы
дрыготкую
празрыстую расу.

І Вам не верыцца,
ніяк не верыцца,
хоць адгрымеў даўно
апошні бой,
што больш ніколі
сын
дамоў не вернецца,
сваіх сяброў
не прывядзе з сабой.

Вам помніцца...
І ў будні дзень, і ў святы
глядзіце Вы
на фотакарткі сынавы.
Вам помніцца...
Прабачце мне, Патапаўна,
Што я да Вас
пагрукаўся ўспамінамі...

* * *

Дамоў вяртаемся
нячаста.
Трывожыць часта
успамін,
дзе дождж грыбны,
як вожык, шастае
на чуйных сцежках баравін,

дзе ўсё рыпяць
масніцы ў хаце,
дзе схровы
самых светлых сноў...
Калі ж сустрэнуць нашы маці
з вандровак
дарагіх сыноў?!

* * *

*Аляксею Мішыну*

Аўтобус дрогкі,
ды не бяда!..
І вось за горкаю —
Слабада.

Сапшо направа.
Налева сосны.
А наш напрамак
насустрач сонцу!

Матор гудзе.
Шаша калыша.
Смяецца дзень,
як Лёша Мішын.

Прыпеўкі сыпле,
быццам з меху.
Адкуль бярэ ён
столькі смеху?

А ў сэрцы песня,
як шторм, клякоча...
Адкуль бяруцца
такія вочы?..

І столькі ў іх
дабрыні і сіні
з чыстых,
бруістых
крыніц Расіі!..

## НА СМАЛЕНСКАЙ ДАРОЗЕ

У сэрца б'е трывога:
ўзнікае спакваля —
Смаленская дарога,
руская зямля.

Амаль на кожнай выспе
бярозы ўжо гарадь,
застылі абеліскі —
салдаты спяць.

І чырванеюць зоркі
на брацкіх курганах.
Туман,
ад дыму горкі,
махоркаю прапах.

І дыхаць нават цяжка —
прагорклая жарства.
Нібы пасля зацяжкі —
кругамі галава.

А ў сэрца б'е трывога.
І сцелецца здаля
Смаленская дарога,
руская зямля.

# САПШО

Сосны спяваюць,
бярозак вішшо,—
ёсць на Смаленшчыне
месца Сапшо.

Дзіўнае дзіва,
не месца,
а рай.
Хочаш не хочаш,
сюды прыязджай!

Ад ветраў зрунелых
зялёны прастор,
і сіняе неба
ад сініх азёр.

Тут помніцца кручам
Рыленкава крок,
Пагран-астравок,
як на ўзводзе курок.

Тут росы раяцца
на золкай траве
і песня паэта
над краем жыве!

4 Зак. 2285

## ЛІТВА

### 1

Кругазварот —
імчыць за годам год.
Толькі памяць застанецца ў сэрцы:
тут натхнёна марыў Ян Чачот
і Чурлёніс крочыў у Бяссмерце.

О Літва!
Вячысты, думны бор,
сосны у каронах —
каралевы!..
Слухаю лагодныя павевы,
ціхі подых ранішніх азёр.

Слухаю іх шолах шапаткі
і гляджу на зіхаткія ўспышкі:
лопаюцца зоркі, як пупышкі,
і звіняць
агеньчыкаў шпакі.

Дрэвы зарыпелі,
як арэлі,
шоргае лістотай ветрабой.
Я ў здзіўленні
гутару з табой.
І спявае ціха Ратнічэле.

## 2

Нідзе спакою не прашу,
бо адчуваю набліжэнне
трывогі нейкай.
І хачу
з сабою ўзяць,
як суцяшэнне,
тваю мяцежную душу.

## 3

Як дома, ўспыхнулі заранкі,
мігцяць палоскай трапяткой,
а ты спяваеш калыханку
з тугой адвечнай і журбой.
Бо ведаеш:
крамяным ранкам
я развітаюся з табой.
І чайка
белаю маланкай
закрэсліць
малады прыбой.

## 4

Паветра ные,
як мембрана.
З апошняй зоркай
згасла ноч.

Гляджу
на ранак твой прыбраны
і не магу адвесці воч.

Няўжо
нам трэба развітацца?
Надзея,
ростані пярэч!
Я з морам
буду хвалявацца,
чакаючы
з табой сустрэч.

## СУСТРЭЧА З ЛАДАГАЙ

Ладага,
мужная Ладага,
так хацелася мне
у маёй
баравой
старане
паглядзець
на тваю
            асмужную далячынь!..
І вось,
як лебядзіную песню,
ты
    адкрываеш
                    хвалістую плынь
і аддаеш
ключы...

Памаўчым,
Ладага,
памаўчым!..

## НАРАЧ

*Юрасю Свірку*

### 1

Дзень добры, Нарач!
Вось мая рука...
Давай знаёміцца,
каб стаць навекі блізкімі.
А Нарач —
беларускі мой Байкал —
гайдаецца
зялёнаю калыскаю.
Перабіраю
клавішы твае —
перабіраю
чарацінкі гучныя...
Ты голасам сівых вякоў
пяеш,
грыміць твой бас
пад выспамі і кручамі.
А вецер трубіць
у блакітны рог.
І Нарач
юшыцца
і дыбіцца,
аж хваля
плешча
каля самых ног
хвастатай рыбінай!

## 2

О Нарач!
Твайго канца і краю не відаць:
прастор бязмежны —
водбліскі іскрыстыя,
на даляглядзе
тоненькаю рыскаю
зямля ці неба,
неба ці вада?..

## 3

Ад хараства
нямею,
аж захлынаецца сэрца:
хвалі —
грывастыя змеі —
на бераг
паўзуць
пагрэцца.
Чайкі
спадаюць нізка,
пра вечнае лета
марачы.
Падсіненым дыскам —
сонца
з Нарачы.

## 4

Вёслы — рукі,
вясёлкі — пырскі.
І праводзяць нас
чараты.
Высякаем
вясёлыя іскры.
Нарач
хвошча
ў барты.
За кармой —
вясёлкамі водбліскі
значаць шлях
у блакітнай імгле.
І хусцінкамі белымі
воблакі —
быццам
нехта
вітанне шле.

## 5

Чыстае,
як сумленне,
звонкае,
як імя,
віруеш, возера,
пенішся —

спачыну табе няма.
Вечнае,
            бессмяротнае,
працуеш
            і ўдзень, і ўноч.
Глядзіш на мяне ты,
                        роднае,
зоркамі
            сініх воч.
А белакрылыя чайкі
клічуць у сіняву...
Я
   табой
            прычашчаюся.
Я
   табою
            жыву!..

5 Зак. 2285

## РОЗДУМ

Лаўлю я прагна колаў стук.
Насустрач —
хвойкі ды бярозкі.
Лічу я кожную вярсту —
Маленства адгалоскі...

Ці мог тады я
разгадаць,
хлапчук шасцігадовы,
што бацька мне
паспеў аддаць
жыцця свайго
аснову!

Таму струменіцца блакіт,
гарчыць
дарожны вецер,
бягуць
юнацтва цягнікі,
і ўслед
махаюць дзеці...

* * *

Не кідайце
на Чалавека
цень,
не кідайце!
Кожную раніцу,
кожны дзень
Чалавека
вітайце!
Чалавеку заўсёды
верце
адкрыта і чэсна!..
А промень жыцця абарвецца —
жыццё
прадоўжыцца
ў песні!..

* * *

Галёкае рэха спакусліва
недзе
ў кусцістай цішы.
Пойдзем са мной па арэхі
шукаць спарышы.

Паспытаем капусты зайцавай
у цяністым густым вішшы.
Пойдзем са мной па арэхі
шукаць спарышы.

Там,
ля арэшнікаў грэшных,
словы знайду для душы.
Пойдзем са мной па арэхі
шукаць спарышы!

* * *

Завея круціць,
як прадонны вір,
а мы ніяк не можам развітацца.
Не трэба сумнявацца
у любві,
у шчырасці
не трэба сумнявацца.
Я прысягаю
іменем тваім,
тваёю вернасцю,
тваёй любоўю.
...Над намі вечар,
мройны снежны дым,
і мы ўдваіх
на ўсёй зямлі
з табою.

* * *

Ці вечарам зорным,
ці сонечным ранкам
шчаслівай дарогі,
Святланка-вяснянка.

Хай вецер сустрэчны
будзе пяшчотным
і яснымі —
зоркі,
і сонейка —
шчодрым,
і лёгкімі —
сцежкі,
і далеч —
без краю,
і добрымі —
словы,
якіх я чакаю!

## КРУГЛАЕ

Дам кругаля расчулена,
але прыспешу крок:
ля самай Друці
Круглае —
глыбінны гарадок.

Няблізка, недалёка,
але відаць з відна,
як снежныя аблокі
плывуць з Талачына.

Плывуць па дрогкай Друці
ля жоўтай асакі...
І ноччу не заснуць тут
на беразе ракі.

Бадзёры вецер круціць
бярозавы вянок...
Жыве
на плыткай Друці
раённы гарадок.

# РОДНАЕ

Я лісце вясновае кратаю,
ў зялёны іду акіян.
Зямля
з афарбоўкай стракатаю
дыхае,
нібы вулкан.

Я слухаю,
ўпаўшы ніцма,
шолахі дрэў і траў.
Грукае ў грудзі
крыніца,
захлынае ўсяго небакрай.

Лясная вядзе дарога
у маладыя палі.
Я слухаю доўга-доўга
гукі зямлі.

* * *

Там, дзе роздум вечаровы
ды бярозак ціхі сум,
сон праходзіць каляровы,
лістападны шум.

Адплывае сіні ветразь,
адплывае сіні дым,
адплывае ў край,
дзе вечнасць
падуладна маладым!

Адкрываю свет нанова,
адкрываю дзіўны свет —
мудрасць матчынага слова
і пазнання смелы след.

* * *

Я параўнаю з дзівасілам
зямлю,
што дадзена мне ў спадчыну,
дзе па вясне
дужэюць крылы,
вяртае вырай
мова матчына.

Магчыма,
тым і ганаруся,
што з нашай глебы прарасло
і сонца
вечнай Беларусі,
і мовы
вешчае святло!

* * *

Дзень добры, лес —
птушыныя харомы,
і цішыня, і колкаяігліца,
і дзераза, і верас, і брусніцы,
і пышныя зялёныя шаломы.
Прыйшоў да вас —
у казачнае дзіва:
няўжо яшчэ жывуць лесавікі,
і чараўніцы, і чараўнікі
і ёсць куток —
мой астравок
адзіны,
дзе столькі песень,
столькі хараства,
дзе шолах дрэў таемны і былінны,
дзе свет мой прыгажэе штохвілінна
і кружыцца ад шчасця галава?!.

* * *

Як і людзі,
паміраюць дрэвы.
Падаюць,
ламаючы сукі.
І ніколі болей
ім не трэба
калыхаць блакіт
і скразнякі.

І ніколі
не сустрэць ім ранкаў,
не праводзіць
зорных вечароў...

О, як рана,
о, як вельмі рана
мы губляем
назаўжды
сяброў.

* * *

Ля сосен кашлатых
цвітуць верасы...
Нядаўна прайшла ты
у кроплях расы.

І шэпчуцца шаты
і шолахі дня.
Ля сосен кашлатых
прайшла
цішыня.

* * *

Ці ява,
а ці летуценне —
яна наплывае здалёк,
трапечацца,
як матылёк,—
лінія
сонца і ценю.

* * *

Мае настроі —
                    ліпнёвыя мроі,
невядомая стоенасць ночы.
Над зямлёю поўнач.
І поўня
роснаю сцежкаю
крочыць.

А росы —
            ільдзінкі —
бомамі дзінькаюць.
Шумлівыя шэрыя шолахі.
Варушацца цені.
Мае летуценні —
                    ліпнёвыя сполахі,
духмяны ліпень,
прапахлы ліпамі,
скошанай медуніцай...

Я адчуваю:
ноч адкрываю,
якая
        бруіцца
                крыніцай.

* * *

Світанне.
Раніца.
Сонца на ўсходзе ірдзее.
Крыху туманіцца.
І, як надзея,
што будзе добры
пагодлівы дзень,
мажорным басам
гудзе
авадзень
на праменьчыку сонца.

* * *

*Святлане*

Самыя добрыя песні,
што складаюць паэты і птушкі,
належаць табе.
Самыя добрыя кветкі,
што знойдзены мною на сцежках лясных,
належаць табе.
Самыя добрыя ўсмешкі,
што зоркі далёкія дораць,
належаць табе.
Самыя добрыя словы,
што сэрца заўсёды хвалююць,
належаць табе.
І самае добра імя,
што шапчу, як малітву,
належыць табе!

* * *

«...Зямля падобна на яблык.
Толькі Зямля большая».

*Ул. Камароў*

Трымаю яблык,
як маленькую планету,
напоўненую сонцам і жывіцай.
І думаю,
сябе
на тым лаўлю:
як лёгка
раскалоць
вось гэты плод,
падобны на Зямлю!..

* * *

Хоць сэрца не змяшчае боль,
я не прашу спагады,
не прыкрываюся жальбой
ад жорсткае няпраўды.

Няпраўду цяжка разгадаць,
нялёгка з ёй змагацца:
патрэбны меч —
каб нападаць,
і шчыт —
абараняцца.

* * *

Я пазнаю сябе
ў імгненні
вятроў,
маланак
і праменняў.
Я пазнаю сябе
ў аблоках,
у кроплях радасных дажджу.
Я пазнаю сябе
па кроках,
па сцежках тых,
дзе я хаджу!

* * *

Мой ранак —
песенны світанак,
птушыны несціханы грай
і самы чысты небакрай,
смугою сіняю сатканы.

І так заўсёды:
росны ранак
і дзень, як вечнасць!
Стома — прэч!
Мой ранак —
Сонечны паўстанак,
а поўдзень —
станцыя Сустрэч.

* * *

Не хавайце
сваіх усмешак,
не шкадуйце
ласкавых слоў
самым родным
і самым блізкім,
не шкадуйце іх
для сяброў!

Не хавайце
сваіх усмешак —
хай давер
паміж намі
будзе.
Не хавайце
сваіх усмешак.
Будзьце шчырыя,
людзі!

* * *

*Уладзіміру Паўлаву*

Яшчэ далёка
                    наш прывал,
яшчэ лунаюць летуценні...
Жыццё —
                заўсёды светацені
і невядомы перавал.

А мы здзіўлёнымі вачыма
глядзім на кожны новы дзень.
На плечы нашыя
                          Радзіма,
як рукі,
            прамяні кладзе.

* * *

Задумваюся ўсё часцей
пра вернасць і адданасць.
Жыццё не робіцца прасцей,
а робіцца складаней.

Нішто
ніколі
не забыць!
А слова
важыць важка:
як цяжка
Чалавекам
быць,
як гэта цяжка!

* * *

Закалыхаўся бор стары,
абуджаны,
　　　　　　калматы.
Снуюць зялёныя вятры,
свае згубіўшы хаты.

Хмурыны крон.
Ствалы, як медзь.
Жывіца ўся іскрыцца,
тут дрэву нельга
　　　　　　　　не звінець,
тут птушцы нельга
　　　　　　　　　　не запець,
тут нельга
　　　　　　не спыніцца!



*Міхасю Стральцову*

Блакітны вецер,
блакітны вецер
адзіны ў свеце,
адзіны ў свеце!
Ты б'еш у грудзі,
дабра мне зычыш,
з сабой заўсёды
ў дарогу клічаш.

Ты не губляйся
ў зялёным вецці,
блакітны вецер,
нястомны вецер.

З табою разам
вітаю ранне,
тваё дыханне —
маё дыханне!



А лісце кружыцца,
злятаючы,
звініць.
Лісточак кожны —
па сваёй арбіце.
Ён хоча
зоркай
на зямлі адбіцца,
сцяжок барвовы
зырка
запаліць!

* * *

Адчыняю акно...
І раніца
ластаўкай
заляцела ў пакой,
загайдалася
на тоненькай галінцы
праменьчыка
і заспявала
ценечька-цененька,
як ручаінка
між белагаловых каменьчыкаў.

* * *

Я — човен. Плыву па рацэ.
А рака цячэ ў акіян.
Вясло
у тваёй руцэ,
як чайкі крыло...
Над ракою
золкі туман
і месяца поўны рог.
Я — човен. Плыву ў акіян
невядомых трывог.

* * *

Дум акіян.
Стаю ў забыцці.
Якою дарогай ісці?..
Я ступаю
той,
каб вечна
ісці за табой,
СОНЦА!

* * *

Яшчэ адна зіма...
І снежны ўзвей
плыве
над белаю зямлёю.
Чакаю я дарма —
цябе няма
і гэтаю зімою.
Няўжо спадман?
Снягі — як міражы?
Скажы!
І не маўчы!..
А ўсё ж не верыцца.
Чакаю —
а цябе няма...
Адна зіма!
Адна мяцеліца!..

* * *

Яшчэ жыве бунтоўны дух —
сабою стаць хачу!
Я разрываю цяжкі круг
і —
    птушкаю лячу,
лячу ў абдымках бліскавіц
туды, дзе б'юць вятры,
дзе навальнічны гром не спіць
і чайкі п'юць віры!..

* * *

Белеет парус одинокий...

*М. Ю. Лермантаў*

На небакраі ветразь
выбліснуў нечакана,
выбліснуў зыркай znічкай
і знік у вячэрняй імжы.
Куды ён кіруецца, ветразь,
толькі табе вядома.
Куды ён плыве, самотны,
Балтыка,
адкажы?..

* * *

Над зямлёй пралятаюць скразныя вятры,
лістапад зледзянелы імжыць.
Сабе гавару я:
— Гары, брат, гары!
Інакш нецікава жыць!..

Я ведаю —
многае трэба ўмець,
многа трэба паспець...
Толькі не тлець —
вечна гарэць,
знічкаю яркай згарэць!

* * *

Калі нараджаецца песня
і ажываюць радкі,
хочацца добрае здзейсніць,
да сэрцаў ісці напраcткі.

І я,
        падуладны настрою,
не буду без мэты блукаць,
а недзе,
                за нейкай вярстою,
на шчырасць песню настрою,
каб людзям яе перадаць!

* * *

Часамі сумняваюся,
пазнаць
усё
хачу!
Бывае —
памыляюся,
бывае —
прамаўчу.

Ніколі толькі ворага
сваім
не назаву!..
Жыццё,
як ёсць,
мне дорага,
а значыць,
я — жыву!

* * *

Я кожны дзень
сябе знаходжу,
смяюся,
дыхаю,
жыву,
размову з птушкамі заводжу,
плыву
высока ў сіняву.

Я адчуваю:
адкрываю
неразгаданы свой узлёт.
З усімі разам
сустракаю
нястрымны
сонечны ўсход.

Зайздрошчу дойліду,
ратаю.
Ніколі людзям не хлушу.
Як кнігу шчырую,
гартаю
сваю трывожную душу.

## ТРЫПЦІХ

### I

Яшчэ шалее ветравік
аснежаным крылом,
ды наступае сакавік,
і рушыў крыгалом.
І ўжо не будзе лютых сцюж...
Ад самага відна,
як ачышчэнне нашых душ,
да нас
        ідзе
                Вясна...

### II

А над зямлёй такая ціш,
і сонца чыстае,
                        вясновае!..
На свет па-новаму глядзіш
і адкрываеш
                    нешта новае.
І кожны дзень —
                        як адкрыццё!
На дрэвах трапяткія ўспышкі.
І чутна,
            як вірыць жыццё
ад кораня і да пупышкі!

## III

Ляціць пагодная завея —
бялюткі яблыневы снег.
І на тваіх дрымотных веях
яе пялёсткавы разбег.
І твой пагляд
мяне сагрэе:
я помню
колькі год назад
такую ж
майскую завею
і яблыневы белы сад.

* * *

Я размаўляю з Балтыкай,
пра Беларусь расказваю...
I дагарэў на захадзе
промнем апошнім дзень.
Чайкі крычаць палахліва.
Робіцца золка, ветрана.
Зоркі гараць на небе.
Зоркі гараць на вадзе.
А я стаю, як на споведзі,
перад табою, Балтыка.
I адплывае ветразь
прадонна-сіняй начы.
Я табе адкрываю
свае запаветныя мары
і ведаю, што з табою
усё я змагу змагчы!..

* * *

Грукне галінкай
прамень раніцою,—
пахне вясною,
ціхай сасною.

Рэха
далёка-далёка
пакоціцца,
пакуль на вярбе
не праклюнуцца коцікі.

А вецер яшчэ
са смугой снегавою —
пахне вясною,
жаданай тугою.

А недзе з надзеяй
ля сіняга мора
знаёма гучыць
жураўліная мова.

І птушкі,
і людзі не маюць спакою,—
пахне вясной,
сінізной,
баразною...

## ЗМЕСТ

**Канапелька А.**

К 19 Сустрэчы: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1979.— 72 с.

Паэзія Анатоля Канапелькі стрыманая і шчырая ў сваёй адкрытасці, у сваім даверы да людзей, у страснай споведзі Радзіме, у вернай любові да краю бацькоў.

Кніга «Сустрэчы» — маналог сучасніка, узрушанага і неспакойнага.

**ББК 84 Бел 7**

К $\frac{70403-147}{М\ 302(05)-79}$ 50—79

**Бел 2**

Анатолий Николаевич Конопелько

ВСТРЕЧИ

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. І. Барадулін. Мастак І. М. Лобан. Мастацкі рэдактар Е. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар А. Т. Глушчанка.

ІБ № 345

Здадзена ў набор 12.06.79. Падп. да друку 09.08.79. АТ 13288. Фармат $60\times90^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 2,25. Ул.-выд. арк. 1,72. Тыраж 4000 экз. Зак. 2285. Цана 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.